# Голас Радзімы

18 ЛЮТАГА 1999 ГОДА

220005, Мінск,
праспект Ф. Скарыны, 44.
Цана 17 000 рублёў.

№ 7
(2617)

Штотыднёвая газета
для суайчыннікаў за межамі Беларусі.
Выдаецца з 1955 г.


ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

## КАБ ЗЕЛЯНЕЛА ДРЭВА РАМЁСТВАЎ

***Нацыянальна-культурнае адраджэнне Беларусі выклікала прыкметны ўздым цікавасці да традыцыйнай культурнай спадчыны, зварот да яе вытокаў, занепакоенасць яе становішчам і будучыняй. На хвалі гэтай цікавасці прыкметна расце і шырыцца грамадскі рух за адраджэнне, зберажэнне і развіццё розных відаў традыцыйнай культуры, уключэнне яе ў сучасныя грамадскія працэсы. Адзін з найбольш прыкметных і канкрэтных крокаў у гэтым напрамку — стварэнне Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, які ставіць сваёй асноўнай задачай клопат пра адзін з найважнейшых раздзелаў традыцыйнай культуры — народнае мастацтва, мастацкія рамёствы і промыслы.***



**Яўген САХУТА**, *старшыня Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці, доктар мастацтвазнаўства.*

ХАРАКТЭРНА, што ідэя стварэння такога творчага аб'яднання ўздымалася не адно дзесяцігоддзе, але рэалізавалася толькі зараз, у самыя цяжкія для Беларусі і яе культуры часы, калі стала відавочным: або сёння, або ўжо ніколі. Спознімся — страцім тое, што маем.

Яшчэ адзін творчы саюз, калі на мяжы выжывання тыя, якім ужо за паўвека? Ці не стане яго стварэнне звычайнай дэкларацыяй? Ці зможа новае творчае аб'яднанне рэальна чым-небудзь дапамагчы народным майстрам? Ці выратуе ад пагібелі рэшткі традыцыйнага мастацтва, пакуль што яшчэ жывыя рамёствы і промыслы?

Трэба быць вялікім аптымістам, каб з упэўненасцю даць станоўчыя адказы на гэтыя і іншыя "ці". Але нельга не бачыць, што пры сённяшняй эканамічнай сітуацыі дзяржава пакуль не да культуры, асабліва традыцыйнай. Не надта песцілі яе і раней, ды ўсё ж народнай творчасцю розныя дзяржаўныя структуры з большага апекаваліся, хоць бы дзеля дэманстрацыі яе "росквіту" ў савецкія часы. Сёння надзеі на дзяржаву мала, нават пры ўсіх яе добрых намерах. Але ёсць неабыякавыя да нацыянальнай культуры людзі, якім баліць за яе душа, якія спрабуюць ратаваць тое, што яшчэ засталося.

Спецыялістам у галіне традыцыйнай культуры, як аматарам і прыхільнікам, добра вядома, што трывожнае становішча народнага мастацтва — праблема даўняя. У першы пасляваенны час, калі не хапала прамысловай прадукцыі утылітарнага і мастацкага прызначэння, народнае мастацтва яшчэ бытавала ў сваім натуральным асяроддзі, некаторыя яго віды нават прыкметна расквітнелі. Але ў хуткім часе насычэнне рынку таннымі прамысловымі вырабамі пачало выцясняць рукатворныя рэчы, сфера іх выкарыстання інтэнсіўна звужалася. Працэс гэты аб'ектыўны, нічога тут не зробіш. Так, у краінах Захаду наступленне навукова-тэхнічнага прагрэсу амаль зусім загубіла народнае мастацтва яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя. У нас жа далучыўся і суб'ектыўны фактар. Яшчэ не забыліся часы, калі ганчарныя горны руйнавалі бульдозерамі, а майстроў абкладвалі непамернымі падаткамі. Творчасць соцень ганчароў, пляцельшчыкаў, ткачых звязвалася з мінулым, да якога не можа быць вяртання. Ужо і самі майстры сталі так лічыць, а пра іх дзяцей — патэнцыяльных пераемнікаў традыцый — і казаць няма чаго.

Апошнім часам адносіны да традыцыйнай культуры прыкметна памяняліся ў лепшы бок. У нас нібы адкрыліся вочы на тыя унікальныя духоўныя скарбы, якія мы яшчэ заспелі жывымі, але, калі не парупімся, можам назаўсёды страціць. Ды негатаўныя праявы рынкавых адносін часоў станаўлення дзяржаўнасці моцна падарвалі матэрыяльную аснову творчасці. Не надта разгонішся ткаць, калі не па кішэні звычайная шпулька нітак. А выставу арганізаваць... А да майстра ў далёкую вёску з'ездзіць...

Дык што ж удалося маладому творчаму саюзу за шэсць гадоў сваёй дзейнасці ў такой сітуацыі?

(Заканчэнне на 8-й стар.).



*Рэспубліканскае свята "Саламяны цуд".*


ПРАГРАМА «БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ». ШТО ЗРОБЛЕНА Ў 1998 ГОДЗЕ? 3 стар.

КАСТУСЬ ЦВІРКА: НОВЫ ПЕРАКЛАД «ДЗЯДОЎ» АДАМА МІЦКЕВІЧА 5 стар.

НЕЗВЫЧАЙНАЕ Ў ЗВЫЧАЙНЫМ. ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ НАТАЛЛІ САЧОК 6 стар.

АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ. ПІСЬМЫ ЧЫТАЧОЎ 7 стар.

# *Тыдзень: Міжнародны агляд. Хроніка падзей. — Фотафакты.*

● **Юрась ДОМНІЧ.**

## ПРАБЛЕМЫ НАРОДАНАСЕЛЬНІЦТВА ДАТЫЧАЦЦА І БЕЛАРУСАЎ

Міністр працы Іван Лях прадстаўляў Рэспубліку Беларусь на міжурадавым форуме па праблемах народанасельніцтва, які праходзіў 8 лютага ў Нідэрландах у межах Гаагскай канферэнцыі па народанасельніцтву і развіццю. Падчас пленарных пасяджэнняў беларускі бок праінфармаваў міжнародную супольнасць аб намаганнях, якія робіць наша дзяржава ў памянёнай галіне. Дэлегацыя таксама шукала магчымасці фінансавання за кошт замежных крыніц шэрагу праектаў у Беларусі.

Акрамя міжурадавага форуму, у Гаазе прайшоў Міжнародны форум парламентарыяў. На ім абмяркоўваліся глабальныя і рэгіянальныя тэндэнцыі ў галіне аховы здароўя, абароны мацярынства і дзяцінства, адукацыі, працоўнай занятасці. Дэпутаты 180 краін свету прынялі зварот да міжнародных арганізацый, у якім заклікалі значна павялічыць фінансаванне праграм, накіраваных на забеспячэнне харчовай бяспекі і аховы здароўя дзяцей. Удзел у форуме парламентарыяў з беларускага боку брала член Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Надзея Яшчук.

## У АДНОСІНАХ З ЛІТВОЙ ЁСЦЬ І ЎДАЧЫ, І ПРАБЛЕМЫ

У пачатку лютага ў пасольстве Літоўскай Рэспублікі ў Мінску з'явіўся новы гаспадар: Віктараса Баўбліса на пасадзе пасла змяніў Йонас Паслаўскас. Гэта супала з прыкметнай актывізацыяй двухбаковых сувязей паміж краінамі.

У прыватнасці, 4 лютага міністр сацыяльнай абароны Беларусі Вольга Даргель і яе літоўская калега Ірэна Дзягутэне падпісалі міждзяржаўны дагавор у галіне сацыяльнага забеспячэння. Гэта азначае, што дзяржавы, такім чынам, перайшлі да цывілізаваных узаемаадносін у гэтай сферы. Цяпер пры пераездзе грамадзян з Літвы ў Беларусь і наадварот ужо не будзе выкарыстоўвацца тэрытарыяльны прынцып пры выплаце пенсій, калі ўсе расходы пакрываліся за кошт краіны пражывання. Зараз будзе выкарыстоўвацца прапарцыянальная сістэма, у адпаведнасці з якой Беларусь і Літва, паводле свайго заканадаўства, будуць выплачваць частку або поўны памер пенсій, якія адпавядаюць працоўнаму стажу, заробленаму грамадзянінам на тэрыторыі кожнай краіны. Як вядома, такая сістэма выкарыстоўваецца ў многіх развітых краінах.

На жаль, на фоне актывізацыі кантактаў паміж Літвой і Беларуссю гэтымі днямі адбыўся і невялікі "джэнтльменскі" канфлікт. Падставай для яго стала тое, што былы міністр сувязі і інфарматыкі Літвы Рымантас Плейкіс атрымаў 30 тысяч фунтаў стэрлінгаў для заснавання радыёстанцыі "Балтыйскія хвалі", якая будзе трансляваць інфармацыю, у прыватнасці, на Беларусь. Сам экс-міністр у сувязі з гэтым гаворыць, што такім чынам ён хоча парушыць "жалезную заслону" афіцыйнай прапаганды Мінска і садзейнічаць развіццю дэмакратыі ў Беларусі. Гэтую навіну даволі прахалодна ўспрынялі як у Літве, так і ў Мінску.

У адказ дэпутаты Нацыянальнага сходу Беларусі прынялі заяву, у якой асудзілі ўтрыманне ў літоўскай турме былых кіраўнікоў ЦК Камуністычнай партыі Літвы Міколаса Буракявічуса і Юозаса Ермалавічуса. Члены Палаты прадстаўнікоў палічылі іх арышт незаконным, асудзілі дзеянні літоўскіх уладаў і заклікалі вызваліць камуністаў.

## АГУЛЬНАЯ БЯДА АБ'ЯДНОЎВАЕ БЕЛАРУСЬ І ЯПОНІЮ

Вядомая пісьменніца, старшыня савета Японскага Фонду Аяка Сона ў пачатку лютага наведала Беларусь. Яна сустрэлася з Прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Лукашэнкам, з якім абмеркавала перспектывы супрацоўніцтва гэтай дабрачыннай арганізацыі з беларускімі партнёрамі. Са свайго боку, кіраўнік дзяржавы падзякаваў Аяка Сона за дапамогу, якую аказвае фонд у справе пераадолення наступстваў чарнобыльскай катастрофы, зазначыўшы, што Беларусь і Японію аб'ядноўвае ўжо тое, што іх народы пацярпелі ад атамнай бяды.

У раённым цэнтры Гродзенскай вобласці — горадзе Лідзе японскія спецыялісты адкрылі цэнтр прафесійнай падрыхтоўкі для ваеннаслужачых, звольненых у запас пасля расфарміравання ракетных войскаў стратэгічнага прызначэння. Гэта зроблена ў адпаведнасці з Пагадненнем аб нераспаўсюджанні ядзернай зброі, якое было падпісана ўрадамі Беларусі і Японіі яшчэ ў 1993 годзе. Цяпер у новым цэнтры былыя вайскоўцы, якія часова аказаліся без працы, змогуць перакваліфікавацца і атрымаць прафесію спецыяліста па абслугоўванню і рамонту аўтамабіляў. У абсталяванне цэнтра японскі бок уклаў больш за два мільёны долараў ЗША.

## РАСІЙСКІЯ РЭГІЁНЫ ЗНОЎ ПРЫМАЮЦЬ ПРЭЗІДЭНТА ЛУКАШЭНКУ

Беларуская дэлегацыя на чале з Прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам з 10 па 12 лютага наведала два расійскія рэгіёны: Рэспубліку Комі і Удмурцкую Рэспубліку. Паводле інфармацыі, якую напярэдадні распаўсюдзіла прэзідэнцкая адміністрацыя, беларускі і расійскі бакі не задавальняе існуючы ўзровень таваразвароту, таму асноўнай мэтай візіту было пашырэнне гандлёва-эканамічных сувязей.

Падчас знаходжання на тэрыторыі Расійскай Федэрацыі А. Лукашэнка правёў перамовы з кіраўнікамі абедзвюх рэспублік і прадстаўнікамі дзелавых колаў, наведаў Сыктыўкарскі лесапрамысловы комплекс, акцыянернае таварыства "Іжмашаўта", Іжэўскі электрамеханічны завод і некаторыя іншыя прамысловыя аб'екты.

● **БЮДЖЭТ НАРЭШЦЕ ПРЫНЯТЫ**

Пасля адабрэння праекта бюджэту на 1999 год Палатай прадстаўнікоў і Саветам Рэспублікі Нацыянальнага сходу яго падпісаў Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. Расходная і даходная часткі бюджэту сёлета складаюць адпаведна 448,4 і 414,8 трыльёна беларускіх рублёў. Дэфіцыт бюджэту ўстаноўлены ў параўнанні з мінулым годам меншы амаль у тры разы: на ўзроўні 0,9 працэнта ад памеру ўнутранага валавога прадукта. Найбольшая колькасць сродкаў будзе накіравана на сацыяльную палітыку і падтрымку сельскай гаспадаркі. Падчас абмеркавання праекта ў парламенце ў дакумент было ўнесена больш за семдзесят паправак і дапаўненняў, якія, аднак, не змянілі значна структуру размеркавання сродкаў па галінах народнай гаспадаркі.

● **ДЗЕЙСНАЯ ПАДТРЫМКА ААН**

Як вядома, выканаўчым камітэтам Праграмы развіцця ААН зацверджаны бюджэт на гэты год у памеры 1,1 мільярда долараў ЗША. Частка гэтых сродкаў будзе накіравана на фінансаванне 20 праектаў у Беларусі. Яны закрануць сферу выкарыстання новых інфармацыйных тэхналогій, аховы акаляючага асяроддзя, абароны правоў чалавека. У межах аднаго з праектаў ПРААН у ВНУ Мінска арганізаваны і пастаянна дзейнічаюць два адукацыйныя цэнтры, у якіх ужо прайшлі падрыхтоўку больш за 700 школьнікаў.

● **КАНЕЦ ДАЎГАБУДА!**

Мінскія гарадскія ўлады зацвердзілі праграму капітальнага будаўніцтва ў сталіцы Беларусі. Нягледзячы на эканамічны крызіс, маштабы жыллёвага будаўніцтва сёлета зноў будуць пашыраны, хаця і ўсяго на 3,2 працэнта. Разам з гэтым плануецца здаць шэраг аб'ектаў сацыяльнай галіны, сярод якіх вядомы даўгабуд — Палац рэспублікі ў цэнтры горада. Будзе закончана таксама будаўніцтва трох новых школ і аднаго дзіцячага садзіка ў "спальных" раёнах сталіцы.

● **МІЖНАРОДНЫЯ СПЕЦЫЯЛІСТЫ ПРАПІСАЛІСЯ Ў МІНСКУ**

Адна з вядомых міжнародных кансультатыўных кампаній "Дэлойт і Туш" за некалькі тыдняў працы ў Мінску ўжо знайшла пастаянных і сур'ёзных партнёраў. Вопыт вядзення бухгалтарскага ўліку і аўдыту, якім валодаюць спецыялісты "Дэлойт і Туш", аказаўся запатрабаваным. Кліентамі кампаніі сталі Нацыянальны банк краіны і шэраг камерцыйных фінансавых устаноў, буйныя прамысловыя прадпрыемствы Беларусі. Кампанія таксама здзяйсняе кансультацыі ў галіне падаткаабкладання, фінансаў, юрыспрудэнцыі і падрыхтоўкі кіруючых кадраў.

● **БЕЛАРУСЬ НАВЕДАЛА МІСІЯ МВФ**

У Мінску 10 лютага адбылася сустрэча прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Сяргея Лінга з місіяй Міжнароднага валютнага фонду. МВФ прадстаўляў памочнік дырэктара другога Еўрапейскага ўпраўлення МВФ Томас Вульф.

З беларускага боку ў сустрэчы ўдзельнічалі старшыня праўлення Нацыянальнага банка Пётр Пракаповіч, міністр эканомікі Уладзімір Шымаў, міністр фінансаў Мікалай Корбут, міністр па кіраванню дзяржмаёмасцю і прыватызацыі Васіль Новак.

Як адзначыў на сустрэчы прэм'ер-міністр, нягледзячы на ўсе складанасці, удалося выканаць, у асноўным, усе дамоўленасці з МВФ, дасягнутыя ў час папярэдняга візіту, прыняць бюджэт на 1999 год.

Сваё задавальненне ў сувязі з прадаўжэннем супрацоўніцтва выказаў Томас Вульф.

Аб магчымасці прадастаўлення надзвычайнага кампенсацыйнага крэдыту памерам 100 мільёнаў долараў ішла размова ў Міністэрстве дзяржмаёмасці.

У цэлым місія МВФ дала станоўчую ацэнку асноўным напрамкам бюджэтна-фінансавай палітыкі рэспублікі і выканання бюджэту 1998 года.



Прэмію Міністэрства архітэктуры і будаўніцтва Рэспублікі Беларусь віцебскія архітэктары Віктар АНДАРАЛАЎ, Сяргей ДАНІЛАЎ і Таццяна СІВАЯ атрымалі за распрацоўку мансардных надбудоў у жылых дамах.



Вядомы беларускі фотамайстар Юрый ІВАНОЎ (справа) падарыў клініцы НДІ анкалогіі ў Бараўлянах некалькі сваіх работ. Гэта не першая дабрачынная акцыя фотакарэспандэнта.



Вялікую цікавасць у мінчан і гасцей сталіцы выклікала дзесятая міжнародная выстава катоў, якая праходзіла ў Палацы прафсаюзаў. Тут былі прадстаўлены 160 пушыстых прыгажуноў дваццаці парод, што прыехалі на выставу з Расіі, Польшчы, Германіі, Беларусі і краін Балтыі.

*На здымку:* адзіны ў свеце кот, у акрасе якога прысутнічае тры колеры.




У Партызанскім раёне сталіцы адкрыўся спартыўны комплекс. У сямі залах і басейне адначасова могуць займацца 300 чалавек.

На базе спартыўнага комплексу працуюць дзве дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы — парусная спорту і сучаснага пяцібор'я.

**Фотахроніка БелТА.**



БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

# БЕЛАРУСЬ—ДЫЯСПАРА: КРОКІ НАСУСТРАЧ

НАПРЫКАНЦЫ снежня ў Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей з удзелам таварыства "Радзіма", Беларускага таварыства дружбы, Міністэрства культуры, Міністэрства адукацыі, Дзяржкамдруку, прадстаўнікоў навукі былі падведзены вынікі выканання дзяржаўнай праграмы "Беларусы ў свеце" ў 1998 годзе і намечаны напрамкі працы з замежнымі суайчыннікамі на будучыню. Гэта ўжо трэцяя нарада такога характару. Як адзначыў старшыня Дзяржкамітэта Аляксандр Білык, сёння на першы план вылучаецца фарміраванне сістэмнасці ў дзейнасці ўсіх зацікаўленых бакоў, таму што, на жаль, сродкі, якія ёсць, не такія ўжо вялікія і неабходна выключыць магчымасць іх распылення. Хаця ў ходзе размовы высветлілася: нават у такім цяпер няпростым пытанні, як матэрыяльнае, не заўсёды і не ўсё так плачэўна. Па словах прадстаўніка Міністэрства адукацыі Генадзя Пяцігора, фінансаванне адукацыйных акцый і працы з дзецьмі суайчыннікаў у мінулым годзе было своечасовым і беспраблемным, што дазволіла выконваць намечаныя праграмы паспяхова. Дарэчы, тут дапамога ішла ў асноўным па двух накірунках: у навучальныя ўстановы, дзе навучаюцца дзеці беларусаў, і культурна-асветніцкія таварыствы беларускай дыяспары.

Увогуле, работа з моладдзю лічыцца надзвычай перспектыўнай і эфектыўнай, а таму патрабуе асаблівай увагі і намаганняў. Прычым пачынаць трэба з самых маленькіх. Таму летась працягвалася работа з беластоцкім садзікам, дзе адкрыты беларускія групы. Выхавальнікі, якія там працуюць, мелі магчымасць пабываць у сваіх мінскіх калег, прыняць удзел у спецыяльным семінары па арганізацыі работы ва ўмовах двухмоўя, атрымаць кансультацыі вучоных-фалькларыстаў па арганізацыі нацыянальных дзіцячых святаў. А беларускай школе імя Скарыны ў Вільнюсе і дзіцячаму культурна-адукацыйнаму цэнтру "Светач" з Івана-Франкоўска (Украіна) выраблены і перададзены батлейкі з наборам лялек-персанажаў, дыяфільмаў і кніг "Тэатр лялек".

ЗА АПОШНІ час узраслі гуманітарныя кантакты зарубежных беларусаў з радзімай — шырэйшымі і цяснейшымі сталі сувязі, больш плённым супрацоўніцтва: толькі ў Дзяржкамітэце па справах рэлігій і нацыянальнасцей прынялі дэлегацыі суайчыннікаў з 11 краін. У сувязі з гэтым узнікла неабходнасць умацавання заканадаўчай базы данай сферы дзейнасці, распрацоўкі праекта закона аб суайчынніках. Падобныя юрыдычныя акты ўжо прыняты ў некаторых дзяржавах, і іх вопыт цяпер актыўна вывучаецца.

Пакуль жа заключаецца шэраг міжурадавых і міжведамасных пагадненняў, што дазваляе паставіць работу з беларускай дыяспарай на цвёрдую аснову, надаць ёй дынамізм і перспектыўнасць. Дарэчы, Украіна выступае з ініцыятывай падпісання аналагічнага міждзяржаўнага дагавора. Такая прапанова заслугоўвае самай пільнай увагі ўжо хаця б таму, што на тэрыторыі Украіны згодна з перапісам 1989 года пражывала 440 тысяч беларусаў, і зусім не ў інтарэсах Беларусі губляць іх у якасці паўнапраўнага этнічнага прадстаўніцтва нацыі ў сумежных землях. На жаль, як адзначалася, нешта падобнае адбываецца з беларусамі Беласточчыны ў Польшчы, дзе працэсы асіміляцыі набываюць значныя маштабы сярод іншага і з-за адчувальнага звужэння інфармацыйнага патоку, што паступае непасрэдна з Беларусі. Калі раней беларускім друкам і перыёдыкай карысталася да трэці беластоцкіх землякоў, то цяпер такую магчымасць маюць толькі 7 працэнтаў. Спецыялісты лічаць: выратаваць становішча ў справе захавання і ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці членаў дыяспары можа толькі развіццё беларускай культуры і адукацыі ў месцах іх кампактнага пражывання.

У сувязі з гэтым асобае значэнне набывае навуковае, навукова-метадычнае, даследчае забеспячэнне ўсіх перспектыўных праграм, распрацаваных для суайчыннікаў. Шмат тут трэба яшчэ зрабіць, але і набыткі сённяшняга дня досыць важкія. У Інстытуце гісторыі Нацыянальнай акадэміі навук працягваецца распрацоўка тэмы "Сучасная беларускае дыяспара". У Інстытуце мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы вядзецца даследаванне пад назвай "Беларусы ў Сібіры і на Далёкім Усходзе", у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы падрыхтавана і выдадзена манаграфія "А. Міцкевіч і тэндэнцыі адраджэння беларускай літаратуры" (аўтар — Уладзімір Мархель), падрыхтавана да друку манаграфія Лідзіі Савік "Літаратура беларускага замежжа. Нарысы жыцця і творчасці беларускіх пісьменнікаў-эмігрантаў". Вельмі шкада, але шэраг работ не можа быць завершаны і выдадзены з-за фінансавых цяжкасцей. Немагчымае ў бліжэйшы час з-за недахопу грошай выданне двухтомнага зборніка дакументаў і матэрыялаў "Беларуская эміграцыя. Гісторыя і сучаснасць", "Нарысы гісторыі беларускай эміграцыі", "Рэлігія і царква ў жыцці беларускага замежжа", "Беларускія дарогі эміграцыі".

МІЖ ІНШЫМ, дарогі гэтыя вельмі розныя і часам надзвычай цікавыя. Напрыканцы мінулага года па запрашэнню Беларускага таварыства дружбы краіну наведаў спадар Антон Паўлома (Паўловіч) з Фінляндыі. Ён беларус па паходжанні, прадзед якога на пачатку стагоддзя працаваў начальнікам Мінскага вакзала. Спадар Паўлома арганізаваў суполку беларусаў у Фінляндыі. У час яго знаходжання ў Мінску распрацаваны і падпісаны пратакол аб супрацоўніцтве. А па рэкамендацыі таварыства "Радзіма" на кастрычнік гэтага года запланаваны канцэрт арганнай музыкі ў нацыянальнай філармоніі ў выкананні нашай суайчынніцы з Галандыі Сусаны Феерман.

Трэба адзначыць, што, атрымліваючы разнастайную дапамогу з Бацькаўшчыны, нашы суайчыннікі таксама імкнуцца не застацца ў даўгу. Так у лістападзе мінулага года на чарговым з'ездзе Федэрацыі рускіх канадцаў (якая, як вядома, аб'ядноўвае і выхадцаў з Беларусі) асноўнымі пытаннямі былі: аказанне гуманітарнай дапамогі радзіме і абмен культурнымі праграмамі.

Што ж тычыцца геаграфічнага прыярытэту кантактаў з землякамі, тут у бліжэйшай будучыні на першы план выходзяць Прыбалтыка і краіны СНД, дзе ў сілу розных прычын беларусы апынуліся ў найбольш складаным становішчы.

Адзін з удзельнікаў абмеркавання, вядомы гісторык, даследчык Адам Мальдзіс прапанаваў на розных урачыстасцях, прымеркаваных да пераходу краіны і народа з другога тысячагоддзя ў трэцяе, адзначыць гэты эпахальны рубеж не пераможнымі рэляцыямі і традыцыйнымі вытворчымі рапартамі, а падрыхтаваць тэхнічна добра аснашчаныя экспазіцыі і стэнды пад назвай: "Што дала беларуская зямля свету і чалавецтву", куды ўключыць падрабязную, магчыма, камп'ютэрызаваную інфармацыю аб 200 найбольш выдатных у планетарным маштабе ураджэнцах Беларусі. Адам Мальдзіс упэўнены: месца нашай краіны будзе па-сапраўднаму пачэсным.

**БЕЛАРУСЬ НА ЎСІХ АДНА—ТАК ЛІЧЫЦЬ СТАРШЫНЯ ДЗЯРЖКАМІТЭТА ПА СПРАВАХ РЭЛІГІЙ І НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЕЙ АЛЯКСАНДР БІЛЫК, І З ІМ НЕЛЬГА НЕ ПАГАДЗІЦЦА.**

*— Аляксандр Мікалаевіч, апошнім часам у нас нярэдка можна пачуць, як замежжа падзяляюць на так званае далёкае і блізкае, заходняе і ўсходняе. Вось і вы вылучаеце ў якасці прыярытэтных накірункаў краіны СНД і Польшчу. Ці не пакрыўдзяцца ўсе астатнія?*

*— Ведаеце, я ўвогуле не прыхільнік падобных падзелаў сярод нашых землякоў. Калі рабіць класіфікацыю, лепей казаць пра пакаленні, этапы выездаў — "хвалі", якіх, па розных звестках, налічваецца ад сямі да дзевяці. І ўжо, канешне, зусім не хацелася б, каб нас зразумелі так, нібыта ўся ўвага дастанецца некаму аднаму, а іншыя будуць "пакінутымі". Падыход Дзяржкамітэта заключаецца ў наступным: у першую чаргу, неабходна аказаць дапамогу тым, каму яна больш патрэбная. Становішча нашых землякоў у развітых заходніх краінах, так званай "старой" эміграцыі, досыць трывалае і сацыяльна абароненае, у тым ліку і законамі краін, дзе яны жывуць, маюць добрую культурную, адукацыйную інфраструктуру. Чаго не скажаш пра беларусаў, што апынуліся ў рэгіёнах, ахопленых жорсткім эканамічным крызісам або і ваеннымі канфліктамі. Нядаўна мне давялося нават браць удзел у міжнародным семінары па канфліктналогіі, хаця раней гэтай тэмай у нас проста не займаліся.*

*А ўрэшце мы адкрытыя для любых кантактаў і разумеем, што погляды ва ўсіх розныя, але ж Беларусь у нас адна. Што тычыцца спрэчак наконт таго, хто мае рацыю, а хто не, трэба памятаць: праўда заўсёды ляжыць недзе пасярэдзіне.*

*Мне здаецца, "старая" эміграцыя сёння больш церпіць ад недахопу інфармацыі з радзімы. І тут патрэбна наша дапамога. На жаль, пакуль гэты накірунак не вельмі добра забяспечаны арганізацыйна. А кантакты ж важныя для ўсіх. Ужо хаця б для таго, каб пачуць адзін аднаго, паспрабаваць зразумець пазіцыю адзін аднаго. Мы нікога не судзім, мы прапануем дыялог усім арганізацыям беларусаў за мяжой.*

*— Калі вярнуцца да тэмы сённяшніх стасункаў з беларусамі на тэрыторыі краін СНД, ці заўсёды знаходзіцца паразуменне паміж беларускімі суполкамі і мясцовымі ўладамі?*

*— Баюся сурочыць, але пакуль праблем не ўзнікала. Да беларусаў увогуле паўсюль вельмі прыязнае стаўленне.*

*Зараз Дзяржкамітэт плануе выйсці на новы этап арганізацыйнай работы — праз стварэнне спецыяльнага фонду "Святло Радзімы", каб зямляцкія аб'яднанні самі зараблялі нейкія грошы на ўласныя патрэбы, у тым ліку і на стварэнне інфармацыйна-культурных цэнтраў, дзе б канцэнтравалася дапамога з Бацькаўшчыны.*

*— Пры такіх падыходах ці не пагражае залішняя заарганізаванасць непасрэднай рабоце з землякамі, якая ў аснове сваёй будуецца на эмоцыях, сапраўдных парывах чалавечых душ?*

*— Спадзяюся, нават упэўнены — не. Нас да гэтага рашэння падштурхоўваюць самі суполкі. Бо, па-першае, мы не ў стане задаволіць усе іх матэрыяльныя патрэбы, а па-другое, некаторыя краіны, і ў першую чаргу Расія, маюць велізарныя тэрыторыі — паспрабуй тут дайсці да кожнага. Стварэнне інфармайцыйна-культурных цэнтраў, куды можа прыйсці па дапамогу, інфармацыю канкрэтны чалавек, і павінны спрыяць умацаванню сувязей. Хаця, безумоўна, праблем хапае.*

*Што тычыцца, як вы кажаце, "парыву душы", магу запэўніць: мы працуем з усімі: і вялікімі арганізацыямі, і маленькімі групамі энтузіястаў, і асабіста з кожным, хто да нас звяртаецца. Ніякага колькаснага "адбору" няма і быць не можа. Самае галоўнае — рэальнае жаданне супрацоўнічаць, да чаго ўсіх і заклікаем.*

## ЛІЧБЫ І ФАКТЫ

— У 1998 годзе беларускім навучальным установам і таварыствам замежжа накіравана 12 407 экземпляраў падручнікаў, дапаможнікаў, метадычнай і дзіцячай мастацкай літаратуры на суму 390 124 000 рублёў.

**— На працягу года за мяжу было афармлена 27 абанементаў падпісных выданняў па адукацыйнай тэматыцы агульным тыражом 373 камплекты.**

— На вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Беларусі прынята 45 прадстаўнікоў беларускага замежжа: 32 з Польшчы і 6 з Літвы на падставе ведамасных пагадненняў, 7 — на ўмовах пазаконкурснага прыёму.

**— 210 вучняў і настаўнікаў з Польшчы, Літвы і Латвіі знаходзіліся на 5-дзённых экскурсіях у Мінску.**

— 185 вучняў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Башкартастана, Рэспублікі Комі, горада Наябрска (Расія) правялі летнія канікулы ў беларускіх лагерах адпачынку.

**— У чэрвені-ліпені на працягу 12 дзён былі праведзены традыцыйныя курсы павышэння кваліфікацыі для 20 настаўнікаў беларускай мовы замежжа.**

— Перададзены 31 нацыянальны дзіцячы касцюм для беларускіх школ у Вільнюсе, Рызе і беларускай суполцы ў Сыктыўкары (Расія), а таксама 16 відэакасет з вучэбнымі фільмамі.

**— У канцы 1998 года пералічана 147 мільёнаў рублёў за выраб каляровага буклета для беларускай школы імя Ф. Скарыны ў Вільнюсе.**

— У кастрычніку 1998 года ў горадзеКівыілі (Эстонія) адбылося адкрыццё мемарыяльнага знака ў гонар беларускага пісьменніка Яна Скрыгана (аўтар — скульптар В. Янушкевіч).

**— З рэспубліканскага бюджэту на аказанне дапамогі таварыствам беларускай культуры замежжа ў 1998 годзе выдзелена звыш 1 мільярда 200 мільёнаў рублёў.**

— Набыта і перададзена Галоўнаму праўленню Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку дзяржаўная беларуская сімволіка, відэа-, аўдыёкасеты з запісамі прафесійных і самадзейных мастацкіх калектываў, фестываляў і свят, народнай, класічнай і эстраднай музыкі.

**— Для ўдзелу ў традыцыйных святах беларускай культуры, якія праводзіліся ў розных гарадах і вёсках Беласточчыны, у 1998 годзе былі накіраваны 10 лепшых самадзейных мастацкіх калектываў Беларусі.**

— У адпаведнасці з Праграмай падтрымкі нацыянальна-культурнага развіцця беларусаў Польшчы на 1997—2000 гады пашыты і перададзены сцэнічныя касцюмы фальклорнаму гурту "Маланка" Бельскага дома культуры, народнаму хору Гайнаўскага дома культуры, фальклорнаму калектыву з вёскі Агароднікі і маладзёжнаму эстраднаму калектыву "Белавежа" Беластоцкага ваяводства.

**— У Польшчы праведзена чарговая, дзевятая па ліку, навуковая канферэнцыя беларускіх і польскіх гісторыкаў з удзелам навукоўцаў беларускага паходжання.**

— У снежні ў Доме дружбы адбылася вечарына, прысвечаная творчасці латышскага паэта беларускага паходжання Міколы Талеркі.

**— У верасні 1998 года ў Гайнаўцы (Польшча) адбылася сустрэча беларускіх пісьменнікаў з польскімі калегамі, сярод якіх былі і беларусы.**

— У Варшаве адбылася сустрэча прадстаўнікоў беларускай дыяспары з дэлегацыяй журналістаў з Беларусі, якія знаходзіліся там па запрашэнню таварыства "Польшча — Беларусь".

**— У 1998 годзе адбыліся сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх суполак Малдовы, Латвіі, Якуціі, Новасібірска (Расія).**

— Для беларускай суполкі ў Фінляндыі перададзена бібліятэчка літаратуры і перыядычных выданняў.

**— Пастаянна, 2 разы на тыдзень, у кіназале Беларускага музея ў Гайнаўцы дэманструюцца кінафільмы, якія пастаўляе абласное вытворчае аб'яднанне "Кінавідэапракат" сумесна з аддзяленнем таварыства "Радзіма" ў Гродне.**

— Устойлівыя кантакты наладжаны з Беларускім гістарычным таварыствам у Польшчы, з беларусазнаўчым таварыствам. Больш за 20 навукоўцаў з Беларусі бралі ўдзел у навуковых канфэрэнцыях.

**— У чэрвені 1998 года Музей сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску правёў выставу мастака-акварэліста, суайчынніка з Феадосіі (Украіна) Уладзіміра Кіркевіча.**

— У канцы красавіка 1998 года ў Кішынёве (Малдова) пры арганізацыйнай падтрымцы таварыства "Радзіма" прайшло свята славянскай пісьменнасці.

**— Для суайчыннікаў Прыднястроўя была перададзена гуманітарная дапамога — медыкаменты, выраблены на Барысаўскім заводзе медпрэпаратаў.**

— Пачынаючы з 60-х гадоў, таварыства "Радзіма" рэгулярна прымае на адпачынак дзяцей замежных землякоў.

**— Сумесна з Міністэрствам культуры праведзены курсы павышэння кваліфікацыі кіраўнікоў мастацкай самадзейнасці: летась навучаліся прадстаўнікі беларускіх арганізацый з Аргенціны і Галандыі.**

— У Кыргызстане падтрымліваюцца пастаянныя кантакты з беларускай абшчынай "Світанак". Аказваецца дапамога ў забеспячэнні літаратурай. У абшчыне сабрана і пачала працаваць бібліятэка на роднай мове.

**— У Ціраспалі (Малдова) пры арганізацыйнай падтрымцы "Радзімы" члены таварыства "Беларускай культуры" правялі Дні славянскай культуры і пісьменнасці.**

Паласу падрыхтавала
**Галіна УЛІЦЁНАК.**

ЮБІЛЕЙ

# ФЕНОМЕН РОДУ ГАРЭЦКІХ

Уладзімір ЖЫГАДЛА.

З усіх уяўленняў рэлігіі больш за ўсё кранае просты пастулат пра неўміручасць чалавечай душы, пра бясконцасць жыцця. Аб гэтым міжволі думаеш, трапляючы на мерапрыемствы, што праводзяцца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Блізкія па духу людзі збіраюцца ў знакамітым Доме дзядзькі Якуба, каб святам адзначыць тую ці іншую падзею роднай культуры, успомніць вялікіх суайчыннікаў, павіншаваць знакамітых сучаснікаў. У такія дні, як ніколі, дух Коласа адчуваецца ў музеі.

У па-сапраўднаму сямейнай у лепшым сэнсе гэтага слова атмасферы адбывалася святкаванне і 70-гадовага юбілею Радзіма Гарэцкага, геолага, грамадскага дзеяча, акадэміка НАН Беларусі, заслужанага дзеяча навукі Беларусі, замежнага члена Расійскай АН, члена Амерыканскага геафізічнага саюза. Радзім Гарэцкі — сын выдатнага беларускага вучонага, аднаго з заснавальнікаў Акадэміі навук Беларусі, брата пісьменніка Максіма Гарэцкага, сябра Якуба Коласа Гаўрылы Гарэцкага. На святкаванні прысутнічаў і малодшы сын Якуба Коласа Міхась Міцкевіч. Вось гэтак жа цёпла і весела, відаць, праходзілі ў пачатку 50-х у гэтай гасцёўні сустрэчы людзей, што перажылі рамантычныя для справы беларускага Адраджэння 20-я гады, жудасныя 30-я, вогненныя 40-я. Сыны тых вялікіх людзей дажылі да ўзросту бацькоў, прайшоўшы доўгі жыццёвы шлях. Ім ёсць што расказаць пра сваё жыццё! Толькі адзін пералік прац юбіляра, прыведзены вучоным сакратаром Інстытута геалагічных навук Андрэем Каўхутам, выклікае павагу нават у далёкіх ад прыродазнаўчых навук людзей. Як падкрэсліў вядучы вечара старшы навуковы супрацоўнік музея Іван Курбека, сёння ўшаноўваецца не пісьменнік, а выдатны вучоны, лёс роду якога цесна звязаны з лёсам роду Міцкевічаў. Дырэктар Аб'яднання дзяржаўных літаратурных музеяў Леанід Хадкевіч і дырэктар музея Якуба Коласа Зінаіда Камароўская ўдзячныя юбіляру за тое, што на працягу многіх гадоў, нягледзячы на велізарную занятасць, ён не забывае дарогу ў музей. Цёпла віншуюць юбіляра людзі, якім пашчасціла працаваць з ім, вучыцца ў яго.



Радзім Гарэцкі — класік геалогіі краін СНД, ён аб'ездзіў усе кантыненты, бываў у Афрыцы, Амерыцы. Ніводзін іншы чалавек не ведае столькі пра багацці зямлі беларускай, як вучоны Радзім Гарэцкі, прэзідэнт Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".

Член-карэспандэнт НАН Беларусі Міхась Мушынскі звярнуў увагу на феномен беларускага роду Гарэцкіх, усе прадстаўнікі якога дабіліся выдатных поспехаў у выбраных напрамках дзейнасці. Толькі такія людзі маглі закласці першыя камяні ў падмурак беларускага Адраджэння. Хораша і весела было ў гасцёўні музея Якуба Коласа ў гэты вечар. Верш, прысвечаны роду Гарэцкіх, чытаў Васіль Зуёнак. Народны мастак Уладзімір Стальмашонак падарыў юбіляру сваю карціну. Пра маладыя гады, пра сяброўства бацькоў успомніў Міхась Міцкевіч, доктар тэхнічных навук.

Язэп Гарэцкі, вядучы інжынер-канструктар Мінскага завода колавых цягачоў, вядомы выканаўца твораў беларускіх літаратараў, павіншаваў юбіляра ад імя шматтысячнага калектыву завода.

Пра свой род, пра бацьку, пра родную Беларусь расказваў слухачам юбіляр. Падзякаваўшы супрацоўнікам музея і гасцям за падараваны вечар, Радзім Гарэцкі ў кароткім выступленні заразіў прысутных сваёй упэўненасцю ў светлай будучыні горача любімай Айчыны. Выдатны вучоны катэгарычна не згодны з распаўсюджаным уяўленнем аб Беларусі як беднай і забітай краіне. У першай дзесятцы сярод еўрапейскіх краін знаходзіцца наша Беларусь амаль па ўсіх вядомых навуковых паказчыках: па тэрыторыі, насельніцтве, узроўні яго адукацыі і г. д. Багаццю нетраў Беларусі могуць пазайздросціць любыя з сучасных краін кантынента, а такіх радовішчаў калійных солей наогул няма ва ўсім свеце. Каму б, здавалася, не паскардзіцца на жыццёвыя цяжкасці, як не яму, чалавеку, бацьку якога пасля сапраўднага навуковага подзвігу забіраюць у сталінскія пастарункі, і зусім малым хлапчуком ён можа парадаваць маці толькі звесткамі аб тым, што сярод зняволеных бачылі яшчэ жывога бацьку? Не радзіма вінавата ў тым, што таленавіты вучоны выкінуты за яе межы, а большасць знаёмых, запалоханых бясконцым тэрорам, паспяшаліся выкрасліць з памяці ўсё, што звязвала іх з непажаданым рэжымам. Большасць, але ж не ўсе. Ні Якуб Колас, ні Янка Купала не адракліся ад братоў Гарэцкіх і, як маглі, дапамагалі іх родным і блізкім, захаваўшы ў іх сэрцах веру ў чалавечнасць і справядлівасць. Ніколі Гарэцкія не кіраваліся ў сваіх учынках крыўдамі на краіну, але заўсёды працавалі для яе і верылі ў яе.

Без уласцівай некаторым прадстаўнікам пакалення сямідзесяцігадовых павучальнасці распавядаў Радзім Гарэцкі пра вучобу, пра маскоўскі перыяд жыцця, пра бытавыя цяжкасці і поспехі бацькі ў навуковай дзейнасці. Усё ў жыцці адносна, але, мусіць, не ў бытавых цяжкасцях галоўная прычына зніжэння якасці сучаснага жыцця ў Беларусі.

У канцы вечара прысутных парадаваў сваім майстэрствам верны сябар музея Якуба Коласа — ансамбль "Менскі гармонік".

Хочацца верыць, што нажытае бацькамі больш не будзе забывацца па загаду каго б там ні было, а захаванае і абдуманае ў новых умовах будзе дапамагаць удзячным нашчадкам у іх дзейнасці. Няхай доўжацца знакамітыя дынастыі, няхай вучацца сябраваць дзеці так, як умелі сябраваць іх бацькі, каб заўсёды ў краіне было з каго браць прыклад, было на каго раўняцца!..



Пінск. Стары горад.

Фота Рамана КАБЯКА.

ПОСТАЦІ СЛАЎНЫХ ПРОДКАЎ

# ТАМАШ МАКОЎСКІ — ПЕРШЫ КАРТОГРАФ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА

Алесь МАРЦІНОВІЧ.

Нарэшце, такі факт: калі да 1601 года не захаваўся ніводзін твор Макоўскага, дык наступнымі гадамі пазначаны многія. А, значыць, ён мог ужо цалкам прысвяціць сябе любімай справе, надта не турбуючыся аб хлебе надзённым, зарobленым іншым шляхам.

Больш таго, у 1613 годзе ў Амстэрдаме ў майстэрні Гесэля Герытса выйшла карта ВКЛ на чатырох лістах. Над гэтым унікальным для свайго часу выданнем Макоўскі працаваў недзе каля 20 гадоў. (Некаторыя даследчыкі называюць 16). Каб выканаць такі вялікі аб'ём работы, яму даваўся аб'ездзіць краіну ўдоўж і ўпоперак. І не толькі, каб дакладна пазначыць звесткі геаграфічнага і тапаграфічнага характару. Работу Тамаш выканаў сам, аб'ехаўшы, як падкрэсліваецца ў тлумачэнні, "усю Літву".

Тым самым Макоўскі стаў першым картографам ВКЛ. У дваякім разуменні гэтага паняцця. Першым, таму што ў княстве да яго за такую адказную і аб'ёмную работу ніхто не браўся, і першым у тым сэнсе, што ў гэтай справе роўных яму не было.

Карта была вельмі высока ацэнена сучаснікамі. Прываблівае і яе знешні выгляд. Мастацкае афармленне атрымалася дасканалым. Карту аздабляла прыгожая рамка, розныя віньеткі, выявы суднаў, якія плывуць па марскіх прасторах. Усё гэта аказвала добрую паслугу падарожнікам, многія з якіх упершыню так поўна адкрылі для сябе дагэтуль невядомую краіну.

Карта багатая і на інфармацыйны матэрыял. Да яе на лацінскай мове дадзены вялікі тлумачальны тэкст, у якім называюцца найважнейшыя звесткі пра Беларусь, расказваецца пра гандаль з многімі краінамі, згадваюцца народны побыт, звычаі. Тым самым у дадатку да карты падаецца падрабязнае апісанне Беларусі і Літвы.

У сучасны момант экземпляр гэтай карты захоўваецца ва універсітэцкай бібліятэцы горада Упсала (Швецыя). А як выглядае яна, можна даведацца з артыкула М. Нікалаева "Беларусь на старажытных картах" ("Беларусь", 1983, № 11).

Загаловак карты, які выграваваны на левым верхнім лісце, паведамляе, што яна выдадзена і складзена пад наглядам і на сродкі Радзівіла, нясвіжскага князя па празванні Сіротка. На фоне выразнай градуснай сеткі дакладна абазначаны рэкі і азёры, указана месцазнаходжанне прыватнаўласніцкіх гарадоў, цэнтраў ваяводстваў, рэзідэнцыі епіскапаў і мітрапаліта.

Называюцца і многія дробныя населеныя пункты (на карту іх нанесена 312). Напрыклад, на тэрыторыі цяперашняга Пастаўскага раёна згадваюцца, акрамя саміх Пастаў, Камаі, Лучай, Данілавічы, Лынтупы, Озвішчы.

Інфармацыйна насычаныя гістарычныя, геаграфічныя і этнаграфічныя заўвагі. Узяць хоць бы такую: "Падлесія, інача Палессе, жыхары называюцца палешукі... сумежнае з Валынню, забытае і забалочанае, адкуль — назва "гразкае". Мёдам і рыбай так багатае, што ўсе суседнія раёны рыбай, адсюль прывезенай, карыстаюцца, якую гандляры кошыкамі прывозяць і медзь за яе плацяць".

Па некаторых звестках, Макоўскаму ў працы над картай дапамагаў картограф Мацей Струбіч. Але ж асноўную

Аб цікавасці да карты сведчыць і тое, што яна неаднаразова перавыдавалася. У тым жа Амстэрдаме выходзіла на латыні ў 1631, 1635 і 1662 гадах, а ў 1668 годзе пабачыла свет на французскай мове.

Талент Макоўскага як гравёра належным чынам раскрыўся і пры выкананні медзярытаў да кнігі Крыштофа Дарагастайскага "Гіпіка".

Дарагастайскі быў старостам ваўкавыскім, павамольскім, дынемунжскім, а з 1588 года — стольнікам літоўскім, затым маршалкам падворным (з 1596 года) і маршалкам літоўскім (з 1597-га). Удзельнічаў у Інфлянцкай вайне, у вайне Рэчы Паспалітай са Швецыяй, кіраваў абаронай Рыгі ў 1601 годзе. Гэта, аднак, не перашкодзіла яму атрымаць належную адукацыю — вучыўся ў Нямеччыне і Швейцарыі.

Для свайго часу Дарагастайскі — постаць капарытная. Не стаяў ён у баку і ад палітычнага жыцця. У прыватнасці, падтрымліваў кандыдатуру сына Івана IV Фёдара Іванавіча на пасаду караля Рэчы Паспалітай. Доўгі час Дарагастайскі жыў у сваім маёнтку Ашмяна Мураваная, непадалёку ад Ашмян. Шмат падарожнічаў, пабываў у многіх краінах. Гэта не перашкаджала яму займацца выдавецкай дзейнасцю — каля 1615 года ў Ашмяне Мураванай была адкрыта друкарня. Захапляўся Дарагастайскі і конямі.

"Гіпіка" — навука аб конях. У ёй узнаўляецца гісторыя верхавой язды, расказваецца пра розныя пароды коней, даюцца іх фізіялагічныя асаблівасці, прыводзяцца шматлікія рэкамендацыі па догляду, лячэнні...

Дарагастайскі не першым напісаў такую кнігу, але менавіта яго "Гіпіка" карысталася вялікай папулярнасцю. Першае выданне з'явілася ў 1603 годзе ў Кракаве, другое — у 1602-м у Познані, а ўсяго ў XVII — XVIII стагоддзях яна выходзіла сем разоў.

Працяг.
Пачатак у № 6.



СА СТАРОГА КУФРА

# ПУХАВІЦКІЯ СТРОІ

Пухавіцкія строі — традыцыйны комплекс беларускага народнага адзення Цэнтральнай Беларусі. Бытавалі ў XIX — пачатку XX стагоддзяў на тэрыторыі паміж Слуцкам і Асіповічамі (абапал ракі Пціч). Ім уласцівыя строгасць форм, тонкае ўмеркаванае аздабленне, разнастайнасць форм у жаночым і мужчынскім адзенні.

Жаночы летні гарнітур меў 2 варыянты: кашуля, спадніца, фартух; кашуля, спадніца, фартух, гарсэт. Кашулю кроілі з прамымі плечавымі ўстаўкамі з адносна вузкім рукавом, адкладным ці стаячым каўняром. Аздаблялі ўзорыстымі папярочнымі палосамі натыкання ці вышыўкі з акцэнтам на прыплечавой частцы. Чырвоны ці чырвона-чорны графічна выразны арнамент палос утвараўся з ромбаў, квадратаў, трохвугольнікаў, гладкіх і зубчатых ліній. Арнамент 2-полкавага (радзей 1-полкавага) фартуха, стылістычна і каларыстычна блізкі да аздаблення кашулі, размяшчаўся палосамі па прынцыпу згушчэння да нізу; па краях нашывалі мохрыкі ці карункі. Спадніцу (андарак) шылі з 4 (кроеных па аснове) або 2 (кроеных па ўтку) полак, натыканых у сакавітыя малінавыя, васільковыя, бурачковыя, фіялетавыя і стрыманыя чорныя, белыя гарызантальныя палосы і клеткі. Гарсэт меў 2 варыянты крою — у выглядзе кароткага ліфа з глыбокімі выразамі ў пройме і на грудзях і ў выглядзе доўгай безрукаўкі з баскай-чатырохклінкай. Шылі гарсэт з шарсцянкі ці аксаміту васількавага, чорнага колераў, аздаблялі нашыўкамі залацістага галуна, парчовай тасьмы, каляровай аблямоўкай. Касцюм завяршала намітка ці скіндачка.

Мужчынскі гарнітур складаўся з кашулі, нагавіц, пояса і камізэлькі. Кашулю (тунікападобную ці з прамымі плечавымі ўстаўкамі) аздаблялі чырвоным геаметрычным арнаментам на плечавых устаўках, каўнярах, каўнерцах, падоле; адкладны каўнер завязвалі тасёмкай або зашпільвалі меднай спражкай. Кашулю навыпуск падпярazвалі тканым ці скураным поясам, на якім часта насілі кайстру, ножык, шабету. Камізэльку з прываленага сукна ці карычнева-белай клятчастай дамаканкі апраналі паверх кашулі. Традыцыйным галаўным уборам былі суконныя, аздобленыя блакітнымі, чырвонымі, зялёнымі матузкамі магеркі, саламяныя капелюшы, аўчынныя футраванкі.

Падрыхтаваў да друку
**Дзяніс РАМАНЮК.**



НОВЫЯ ВЫДАННІ

# «ПАЛЕСКІЯ ВАНДРОЎНІКІ»

Вядомы беларускі пісьменнік Генадзь Пашкоў моцна любіць родную зямлю, клапоціцца і думае пра яе. Ён з сябрамі на вёслах прайшоў сотні кіламетраў па Прыпяці і Гарыні. Цікавыя прыгоды ў час вандровак, сустрэчы з далёкай і блізкай гісторыяй, сённяшнімі жыццёвымі праявамі надрыпяцкай і прыгарынскай зямлі, з яе людзьмі, яркія і выразныя малюнкі прыроды знойдзе чытач у новай кнізе Г. Пашкова "Палескія вандроўнікі", якую выпусціла ў свет выдавецтва "Полымя".

На яе старонках надрукаваны тры падарожжы пад загалоўкамі: "Прыпяцкая Неруш", "Вяртанне" і "Святло прыгарыння".

Нямала пазнавальнага занатавана таксама ў дарожных запісах "Дарога да акіяна" — пра малавядомую беларусам Паўднёвую Карэю.

Трэба аддаць належнае Генадзю Пятровічу: гэты лірычна-дакументальны дзённік чытаецца з неаслабнай цікавасцю. Усё, пра што аўтар гаворыць, не страчвае актуальнасці. Кніга напісана даходліва, вызначаецца выразнасцю канстатацый фактаў.

Тэкст добра дапаўняюць некалькі вершаў аўтара, напісаных вобразна і займальна. Выданне багата ілюстравана фотаздымкамі Г. Бажанава і Г. Пашкова. Прыгожае афармленне мастака А. Шэверава.

Няма сумнення, што кніга Г. Пашкова"Палескія вандроўнікі" прынясе вялікую карысць тым, хто яе ўважліва прачытае.

**Іосіф ПАЖОГА.**

АДАМ МІЦКЕВІЧ — НОВЫ ПЕРАКЛАД

# ДЗЯДЫ

**Толькі што закончыў пераклад віленска-ковенскіх "Дзядоў" Адама Міцкевіча. "Дзяды" — адзін з шэдэўраў сусветнай літаратуры. У аснове гэтай драматычнай паэмы — старажытны беларускі абрад памінання продкаў Дзяды, "найгожае са свят", як сказаў сам Адам Міцкевіч. Цалкам паэму маркуецца выдаць у "Выбраных творах" Адама Міцкевіча, у вялікай кніжнай серыі "Беларускі кнігазбор". Калі гэта будзе, цяжка сказаць. Усё ўпіраецца ў грашовыя сродкі, якіх у выдавецтва "Беларускі кнігазбор" нестае. Спадзяванне тут на беларускую і сусветную грамадскасць, якая, можа, адгукнецца на нашу просьбу аб дапамозе ў фінансаванні тома вялікага паэта.**

**Увазе чытачоў "Голасу Радзімы" прапануецца заканчэнне IV часткі паэмы, дзе расказваецца пра сустрэчу пустэльніка Густава, праўобраза самога паэта, з ксяндзом у яго доме.**

**Кастусь ЦВІРКА.**

**Густаў**

*(Ксяндзу).*

...Калі я ў дом твой трапіў, так прачула
Ты з дзеткамі маліўся без прынукі
За мёртвых, просячы ім літасці у Бога.

**Ксёндз**

*(Хапае распяцце).*

Так, кончым...

*(Цягне дзяцей да сябе).*

**Густаў**

Ксёндз, ці верыш ты, скажы талкова,
Ў чысцец і ў пекла?..

**Ксёндз**

Веру слова ў слова
Ва ўсё, што ведама з Пісьма Святога,
Што нам усім здавён Хрыстос распавядае,
Чаму касцёл наш, матка наша навучае.

**Густаў**

І што калісьці продкі нашы вызнавалі?
Найгожае са свят — Дзяды, памінак свята,
Чаму ж нас вы, Бога служкі, адабралі?

**Ксёндз**

Бярэ ў паганстве свята гэтае пачатак.
Загадвае касцёл мне: людзям несці
Асвету, забабонаў рэшткі ж — знішчыць, звесці.

**Густаў**

*(Паказваючы на зямлю).*

Ды людзі просяць праз мяне, і я таксама:
Вярні Дзяды нам! За нябеснай брамай,
Дзе наша ўсё жыццё дакладна важаць шалі,
Адна сляза слугі над дамавінай пана
Больш значыць, чым разнесеныя друкам жалі,
Чым траур катафалка і картэж найманы.
Калі, шкадуючы яго ж, народ падданы
Купляе свечку на магілу, сам, аддана,
У змроку вечнасці яна больш ярка ззяе,
Чым тысячы лампад, запаленых загадам.
Душа памерлага найлепей будзе рада
Скрылёчку сыру, мёду пляйстару ды жмені
Мукі, што на труну сыпне рука якая,
Чым балю моднаму — персон на сто, не меней! —
Што на памінках крэўных даюць, бывае.

**Ксёндз**

Ні слова больш! Дзяды, што ладзіць апаўночы
Па пустках ды капліцах люд ахвочы, —
Абрад вядзьмарскі, Богу не жаданы,
Бо сее скрозь цямноту, не асвету.
З яго ўсе байкі, прымхаў свет паганы
Пра чары, здані, усіх духаў свету.

**Густаў**

Няма ніякіх духаў?

*(З іроніяй).*

Без душы — свет гэты?
Ён — як шкілет? Дык хто ж, паведай мне ты,
У рух яго спружынай тайнаю прыводзіць?
Ці ён — гадзіннік, што ад гіры толькі ходзіць?

*(З усмешкай).*

Але няўцям вам, хто павесіў гіры тыя!
Вам розум падказаў во гэты вінт дыхтоўны,
Спружыны ды калёсікі стальныя.
А хто завёў іх? Дзе той ключ чароўны?
Калі б з вачэй тваіх зямная плеўка спала,
То шмат бы жыццяў перад імі ўстала,
Што глыбу свету рухаюць заўсёды...

*(Дзецям, якія ўваходзяць у пакой).*

Вы падыдзіце, дзеці, да камоды.

*(Камодзе, ці канторцы).*

Скажы, душа, якія
Патрэбы у цябе?

*(Голас з канторкі).*

Прашу малітвы тры я!

**Ксёндз**

*(Уражаны).*

Ў імя Айца... Хутчэй вікарыя будзіце!
Во — слова стала целам... Божа!.. Ўсіх завіце!..

**Густаў**

Дзе розум, вера? Сорам, ксёндз, жахацца гэтак!
За ўсё мацнейшы — крыж. Той, хто баіцца Бога,
У свеце не баіцца анічога.

**Ксёндз**

Ах, гэта — здань!.. Што трэба ад мяне, ад дзетак?

**Густаў**

Што, кажаш, мне прасіць? Такіх, хто просіць, — многа!

*(Ловіць каля свечкі матылька).*

А, матылёк! Адкуль жа ты, скажы, нябога?

*(Ксяндзу, паказваючы на матылька).*

Святла ён прагне, рой крылаты гэты.
Гасілі ж пры жыцці яны прамень асветы,
За што ім страшны суд намовіў быць у змроку.
Пакуль жа душы іх, міглівыя такія,
Хоць і святла не любяць, мкнуць к святлу здалёку.
Для цёмных духаў — гэта мукі найцяжкія!
Глянь на матыль квяцісты, зухаваты —
Быў ён каролік нейкі ці мо пан багаты.
Разгорнутымі крыламі сваімі
Цямніў ён гарады, паветы, хаты.
А той вунь меншы, чорны і пузаты,
З вачамі нерухомымі, тупымі,
Быў цэнзар. Ён, аблётваючы кветкі
Прыгожага мастацтва, ачарняў у злосці
Яго ўсе тонкасці, ён талент рэдкі
Пыхліва бэсціў. Слодыч прыгажосці
Высмоктваў сквапна прагавітым жалам.
Ён у зародку зернейкі навукі
Знішчаў, здавіўшы зубам злым гадзюкі.
А гэта шумным тоўпяцца кагалам
Вяльмож лісліўцы — хцівыя пісакі.
Калі пан гнеўны быў на нейкія загоны,
Іх, душ чарнільных, слаў, і, бы шалёны
Рой саранчы, туды яны імчалі —
Рунь, збажыну ўсю ўшчэнт знішчалі.
За іх не варта, дзеці дарагія,
Чытаць малітву вам "Вітай, Марыя".
Ды ёсць спагады вартыя істоты.
Твае сябры і вучні, ксёндз, між імі.
Ты ўсім ім прадракаў высокія палёты,
Агонь душы іх сыціў словамі сваімі.
Што вынеслі яны тут за свае правіны,
Кажу табе я каля вечнасці парогу.
Свой шлях жыцця я ўцісну толькі ў тры гадзіны,
Зноў перажыўшы ўсё табе ў перасцярогу.
Ратуй іх душы просьбай, мшальнаю ахвярай,
А мне ўспамінаў досыць — ім я ўжо адданы.
За грэх мой цэлае жыццё было мне карай.
Цяпер — я ўзнагароджаны ці пакараны?
Бо хто тут, на зямлі, меў райскія пяшчоты,
Другую палавіну адшукаў сваёй істоты,
Хто, свецкага жыцця не ведаючы межаў,
Сваёй каханай сэрцам і душой належаў,
Хто думаў, як яна, хто жыў яе імкненнем,
Сябе той страціць і з жыцця зямнога згубай.
І ў свеце іншым ён, прывязаны да любай,
Яе ж навекі застанецца ценем.
Хто пры жыцці быў верны пану Богу,
Той падзяляў нябесную з ім славу,
А хто з нячысцым знаўся, той па праву
Сабе ж у пекла вымасціў дарогу.
На шчасце, я ўсё ж трапіў пад крыло анёла,
І Будучнасць блішчыць і ёй, і мне вясёла.
Тым часам пры каханай я, бы цень, блукаю,
З ёй — то ў нябёсах я, то ў пекла зноў трапляю.
Калі мяне ўзгадае, уздыхне, а я крануся
Губамі губ яе, да грудак прыхінуся,
Дыханне піць пачну яе, найдарагое —
Тады у небе ўжо я!
О доўга мне яшчэ блукаць па свеце трэба,
Пакуль яе не возьме Бог с сабою
І за анёлам любым сцежкай незямною
Мой бледны цень не ўзнясецца ў неба.

*(Пачынае біць гадзіннік).*

*(Спявае).*

Слухайце ж усе і шчыра верце
Словам мудрым Божага наказу:
Хто на небе быў хоць раз да смерці,
Той, памёршы, трапіць не адразу.

*(Гадзіннік канчае біць, спявае певень, лямпа перад абразом гасне, Густаў знікае).*

**Хор**

Слухайце ж усе і шчыра верце
Словам мудрым Божага наказу:
Хто на небе быў хоць раз да смерці,
Той, памёршы, трапіць не адразу.

ЖЫЦЦЁВЫЯ СЮЖЭТЫ

# РАМАН ПРАЦЯГГЛАСЦЮ Ў ПАЛОВУ ВЕКУ

## Глава I

## ЯЕ ГІСТОРЫЯ — НЕ ПА ПАДРУЧНІКАХ

**З сямідзесяці васьмі гадоў толькі восем з паловай Валянціна САЧОК не жыла ў Мінску. Паўтара года — Германія, два — Комі АССР, пяць — Кіеў...**

**...Ладны асабнячок з чырвонай цэглы ў парку імя Горкага насупраць планетарыя. Цяпер тут адміністрацыя кватарує і не ведае, мабыць, што ў горадзе нашым пражывае кабета, якая пры іншых законах магла б прэтэндаваць на гэты дом. Дом, дзе прайшло яе дзяцінства і які належаў Касьме Татуру, мужу яе цёткі Ганны.**

Карэнных мінчан, такіх, як Валянціна Сачок, цяпер, бадай што, па пальцах можна пералічыць. А прычыны ўсім вядомыя: войны сусветныя ды рэпрэсіі добра на гэта папрацавалі. Бываючы ў гэтай надзвычай цікавай жанчыны, кожны раз дзіўлюся, як ёй удалося сабраць, захаваць фотапартрэтны летапіс яе сям'і — сёстры маці (іх было дзесяць — ад двух шлюбаў бабулі — праваслаўнага і каталіцкага), сама бабуля Разалія Дуткоўская — у дзявоцтве, прыгожая, з гордай постаццю, нягледзячы на сталыя гады. Вельмі жаночыя ўбранні, прычоскі... Такі далёкі, непадобны на наш свет.



*Бабуля Разалія ДУТКОЎСКАЯ (Мінск, 1905 г.).*



*Валянціна САЧОК у сябе дома.*

Валянціна Ігнатаўна перабірае старадаўнія здымкі, зробленыя на пачатку стагоддзя, і расказвае тое, што памятае пра свой радавод:

— Дзед мой па маці быў з мяшчан, а бабуля — з дваранскага роду. Яе першы муж служыў ляснічым у маёнтку памешчыкаў Базылеўскіх пад Мінскам. Пасля ягонай смерці бабуля Разалія з другім мужам пераехала ў Мінск. Усе дочкі яе былі прыгажунямі, так што без асаблівага пасагу павыходзілі замуж.

Цётка Ганна выйшла замуж за бухгалтара-рэвізора Касьму Татура. Мне было 2—3 гады, калі маці разышлася з маім бацькам, і Татуры забралі мяне да сябе. Фактычна яны мяне і выхавалі. Іх дом дагэтуль захаваўся. Тады гэта была вуліца Канюшынная. Насупраць нашага дома — парк. Гэта ўжо пасля вайны плот далей аднеслі, пашыраючы тэрыторыю парку. Уніз вуліцы сапраўдныя канюшні былі, і салдаты-коннікі, практыкуючыся з шашкамі, лазу высякалі на нашай вуліцы. Якім гэта было шчасцем для нас, дзятвы, калі нехта з тых коннікаў браў кагосьці на каня. Мне больш за ўсіх шчасціла, мо таму, што была я вельмі ветлівай і вясёлай.

Наш раён быў прэстыжным, з добрымі дамамі і цікавымі прозвішчамі. Татуры палову свайго дома здавалі ўнаём, і там жыла сям'я старэйшай дачкі славутага тыбецкага лекара Пятра Бадмаева (ён нават самога цара Мікалая II і яго сям'ю практыкаваў) Надзеі Вішнеўскай. Яе муж да рэвалюцыі займаў вельмі адказную пасаду і ўжо пасля рэвалюцыі ўсё, што меў, аддаў у казну, нікуды не пабег, застаўся. У іх было шасцёра дзяцей, і я амаль увесь час бавіла ў гэтай сям'і. Яны мне шмат што далі — я як бы гімназію ў іх прайшла...

За нашай вуліцай пачынаўся Першы вайсковы завулак, далей Шпітальная (цяпер Фрунзе), на якой дом Коласа стаяў — двухпавярховы драўляны асабняк за плотам у глыбіні саду. У гэтым доме заўсёды было шматлюдна: свае і чужыя дзеці, сваякі, якія гасцявалі падоўгу. Жонка Коласа была добрая, гасцінная — усю дзятву, што трапляла на яе вочы, частавала цукеркамі, печывам. А дзядзьку Якуба запомніла чамусьці заўсёды сур'ёзным, на нечым сканцэнтраваным. Памятаю, як здзівілася, калі ён аднойчы спыніў мяне і запытаў: "Дык каму ты там у школе нос пракусіла, гарэза?" Гэта ўжо ягоны Міхаська далажыў пра здарэнне, крыху прыхлусіўшы. Потым, калі дзядзька Якуб напісаў вершы пра Міхася, дык мы ўжо на хлапчука як на героя паглядалі. Я вучылася з ім у беларускай школе, яна якраз на тым месцы стаяла, дзе цяпер гастраном, — гэта насупраць Купалаўскага сквера. Школа была прэстыжная — там дзеці Чарвякова, Галадзеда, іншых членаў урада вучыліся. І скажу, што да нас, простых смертных, настаўнікі адносіліся з халадком.

А трапіла я ў гэту школу пад уплывам цёткі Уладзі, жонкі Купалы, якая была загадчыцай дзіцячага садзіка і выхавальніцай нашай нуль-групы. Садзік быў на набярэжнай Свіслачы, непадалёку ад Купалава дома. Я часта праводзіла цётку Уладзю дадому — яна, зноў жа, вылучала мяне за мой нораў. І праз шмат гадоў, калі сустрэліся, як ні дзіўна, яна пазнала мяне. Тады, у дзяцінстве, бывала я ў іх і дома. Памятаю чаяпіцце пад абажурам. Сам гаспадар вельмі вясёлым быў, заўсёды жартаваў з нейкімі падвохамі.

І хаця потым мы вывучалі ўжо ў школе творчасць і Коласа, і Купалы, як жывых класікаў я іх зусім не ўспрымала. Мне ніяк не прыходзіла ў галаву, што я павінна глядзець і запамінаць, як яны ходзяць, дыхаюць. Таксама проста ўспрымала я дзядзьку Язэпа Лёсіка (бацьку маёй сяброўкі Люцы яшчэ з дзіцячага садзіка), па падручніку якога вывучала граматыку.

Але шчаслівыя дзіцячыя гады былі азмрочаны: у 30-х пачаліся першыя страты. Быў арыштаваны дзядзька Касьма. Яго хутка выпусцілі, але далі толькі 24 гадзіны на зборы, каб ён з сям'ёй пакінуў Мінск. Яны паехалі ў Тарусу. Горкім было гэтае развітанне, як і з сяброўкай Люцяй Лёсік, бацьку якой таксама арыштавалі, а сям'ю выслалі. І не ведалі тады дзяўчынкі, што сустрэнуцца ажно праз 48 гадоў, захаваўшы памяць і вернасць таму дзіцячаму сяброўству.

Аўтар гэтых радкоў якраз і пазнаёмілася з Валянцінай Сачок падчас яе сустрэчы з сяброўкай дзяцінства, калі яны ехалі на свята "Каласавіны" на радзіму дзядзькі Якуба. Як расказаць за некалькі дзён сустрэчы ўсё жыццё, пражытае і перажытае?!

Дзіўнае гэта пачуццё, калі гісторыю вывучаеш не па падручніку, а праз лёсы жывых людзей.

**Маргарыта СТАРЫХ.**

(Працяг будзе).




*Сястра маці Паліна (г. Разань, 1903 г.).*



*Антаніна Іосіфаўна, маці Валянціны Ігнатаўны, з сястрой Леакадзіяй (Мінск, 1904 г.).*




*Касьма ТАТУР (Мінск, 1904 г.).*



*Нуль-група дзіцячага садзіка № 8, загадчыцай якога была цётка Уладзя, жонка Я. Купалы (Мінск, 1928 г.).*



## АДВАРОТНАЯ СУВЯЗЬ

**Шаноўныя чытачы! Напрыканцы мінулага года мы звярнуліся да вас з просьбай пацвердзіць сваю зацікаўленасць у атрыманні нашай газеты і вельмі ўдзячныя тым, хто паспяшаўся даслаць свае паведамленні, выказаць меркаванні.**

**Нас натхняе тое, што вы заўважылі імкненне журналістаў рэдакцыі абнавіць змест газеты, зрабіць яе цікавай для ўсёй сям'і, задаволіць інтарэсы навукоўцаў, садзейнічаць узаемадзеянню суполак.**

**Удзячныя ўсім, хто выказаў заўвагі і прапановы. Спадзяемся з вашай дапамогай пертварыць наша выданне ў агульную беларускую газету.**

**З павагай**

**Наталля САЛУК.**

**P. S. Для тых, хто па нейкіх прычынах не атрымаў нумар газеты са зваротам да чытачоў, нагадваем нашы каардынаты:**

**Тэлефон: (375-17) 13-32-80.**
**Факс (375-17) 43-45-73.**
**E-mail: taisa @ irex. minsk. by.**
***Адрас: 220005, Мінск, праспект Скарыны, 44. Рэдакцыя газеты "Голас Радзімы".***

* * *

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Прачытаўшы ваша "Слова да чытачоў" у "Голасе Радзімы" № 50 за 1998 год, паведамляю, што вашу газету я атрымліваю, за што шчыра дзякую.

Цікаўлюся змешчанымі ў ёй публікацыямі і асабліва падзеямі, якія адбываюцца на Беларусі. Адначасова жадаю рэдакцыі ў новым, 1999 годзе, плённай працы і захавання роднай мовы, якую мы, эмігранты, шануем на чужыне.

**Юры ВЕСЯЛОЎСКІ.**

Лондан.

* * *

Дарагія сябры!

Украінская нацыянальная асацыяцыя беларусістаў на працягу некалькіх гадоў атрымлівала "Голас Радзімы" і шчыра вам удзячная за гэта. Ваша газета — адзіная крыніца інфармацыі аб жыцці Беларусі і беларускага замежжа. Мы вельмі зацікаўлены, каб вы дасылалі нам газету і ў далейшым. Разам з тым, мы разумеем вашы складаныя абставіны, таму згодны і на меншую колькасць экземпляраў.

Выбачайце, калі ласка, што просім вас аб гэтым з такім спазненнем: апошнія нумары вашай газеты за мінулы год (№№ 50, 51—52 мы атрымалі толькі ўчора, г. зн. 20 студзеня 1999 года і прачыталі ваша "Слова да чытачоў".

Шчыра жадаем усім супрацоўнікам вашай газеты ў новым годзе моцнага здароўя, вялікіх творчых поспехаў і асабістага шчасця!

**Рыгор ПІЎТАРАК,**
**прэзідэнт Украінскай нацыянальнай асацыяцыі беларусістаў,**
**член-карэспандэнт Нацыянальнай акадэміі навук Украіны,**
**доктар філасофскіх навук, прафесар.**

Украіна.

* * *

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Вельмі дзякую вам за газету. Я з вялікай цікавасцю чытаю кожны нумар. У Мінску я вучылася, скончыла філалагічны факультэт БДУ ў 1980 годзе (руская мова і літаратура), абараніла кандыдацкую дысертацыю па польска-беларускіх моўных сувязях. Жыву на захадзе Польшчы, выкладаю рускую мову, працую перакладчыкам. Вельмі люблю Беларусь. Кожны год летам, а часам і часцей бываю ў Беларусі. У Мінску, Полацку, Слуцку жывуць мае лепшыя сябры. На жаль, яны размаўляюць на рускай мове. Каб не ваша газета, я зусім забыла б беларускую мову. "Голас Радзімы" — гэта таксама крыніца інфармацыі пра Беларусь, сучаснае жыццё яе народа.

Жадаю вам усяго самага лепшага, поспехаў у працы!

З павагай **Ірэна ФЕДАРУК.**

Польшча.

* * *

Паважаная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Віншую вас з Новым, 1999 годам! Зычу ўсяго найлепшага ў вашым жыцці. Добрага здароўя, сямейнага дабрабыту, поспехаў у працы і міру на планеце.

Нізкі паклон усім.

**Кацярына МІЦЬКО.**

Францыя.

* * *

Паважаная рэдакцыйная калегія "Голасу Радзімы"!

Я, Браніслаў Аўгусціновіч, які жыве ў Нюрнбергу, хачу падзякаваць вам за вашу газету, якую атрымліваю рэгулярна.

Віншую вас з Калядамі і Новым годам!

Жыве Беларусь і беларуская мова.

**Браніслаў АЎГУСЦІНОВІЧ.**

Нюрнберг.

* * *

Паважаная рэдакцыя!

Спасылаючыся на апошнія атрыманыя нумары вашай газеты — №№ 50 і 51 за 1998 год, хачу падзякаваць вам за ўвагу і дасылку газеты. Вельмі жадала б атрымліваць яе і далей. Больш таго, калі тое было б магчыма, то сотні паўтары сяброў нашага Таварыства беларускай культуры былі б удзячныя вам за такую дасылку.

Мяне цікавяць публікацыі пра розныя культурныя падзеі на Беларусі, пра выставы беларускіх мастакоў, канцэрты беларускіх гуртоў, новыя кніжкі на беларускай мове, мастацкія альбомы, гуказапісы, асабліва малады выканаўцаў. Добра было б, каб газета паведамляла адрасы і тэлефоны крамаў, дзе можна набыць беларускія гуказапісы (бардаў, эстраду, рок), альбомы беларускіх мастакоў і не толькі ў Мінску, але таксама ў іншых гарадах Беларусі (мяне асабіста цікавіць Віцебск, мае сябры тое ж хацелі б ведаць пра Гомель, Магілёў, Оршу, Гродна). Тады можна было б хоць замовіць знаёмым, каб купілі і даслалі, а можа і крамы самі здолелі б наладзіць дасылку поштай. Ад каго гэта залежыць на Беларусі?

У вас цікавыя публікацыі пра нашых знакамітых землякоў, іх адкрыцці і вынаходніцтвы. Працягвайце іх, калі ласка.

З павагай **Таіса МІШЧАНКА,**
**намеснік старшыні МТБК імя Ф. Скарыны.**

Масква.

* * *

Шаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Вялікае дзякуй за тое, што вы пасылаеце газету нам у Цвер! Публікацыі цікавыя, асабліва з мінулага нашай Бацькаўшчыны. Да таго ж у Расіі вельмі мала ведаюць аб Беларусі, мове і культуры нават сярод выкладчыкаў універсітэта, да якіх я і мае сябры належым. Калі магчыма, мы хацелі б атрымліваць газету і далей.

Прыміце, калі ласка, пажаданне поспехаў і ўдачы ва ўсім!

**Уладзімір КУНТЫШ.**

г. Цвер, Расія.

* * *

Дарагія радзімічы!

Да нашага кутка таксама далятае ваша газета, хаця не так хутка, як чакаецца. Толькі што атрымаў два апошнія нумары за 1998 год, дзе вы звяртаецеся да чытачоў з пытаннем наконт мэтазгоднасці далейшай дасылкі выдання, уражанняў ад публікацый.

Для мяне, напрыклад, "Голас Радзімы" — жывы, не раз адзіны струменьчык жыццядайны з Бацькаўшчыны, які ўжо дзесяцігоддзе спаталяе і гоіць беларуса-самотніка. Ласкава спадзяюся б на падмогу вашу і ў новым, 1999 годзе, а, калі дажывем, то і ў наступным стагоддзі.

Дык вось пра наступны век. Як жа нам далей пойдзе, беларусам? Адсюль і "Анкета", якую дасылаю з ласкавай просьбай абнародаваць у штотыднёвіку. Абяцаю, у сваю чаргу, падзяліцца з рэдакцыяй спадзяванымі вынікамі (патрапяць жа суродзічы і бачыць, і прадбачыць...).

Словам, памажыце!

А за гутарку з вучоным мужам Міколам Ермаловічам, нястомным нашым, непахісным шукальнікам-руплііўцам Беларускай Праўды, асабліва, найвялікшы вам дзякуй. Ёсць над чым разважаць, да каго гарнуцца ў няпростым нашым жыцці.

Не даводзілася чуць, чытаць ягоных вершаў, хоць пэўна яны, як і ўсё, што ідзе з душы, з-пад пяра гэтага трапяткога і мудрага беларуса, дачакаюцца прачытання і разумення.

**АНКЕТА**

*аднаго пытання*

*Для Беларусі XXI стагоддзе — чым будзе помнае?*

Вашыя меркаванні — у адным слове, сказе, радку, абзацы або старонцы тэкста — ласкава спадзяемся атрымаць на адрас:

**Алексей Кавка, Угловой пер., 4, кв. 86.**
**103055, Москва, Россия.**

Сабраныя думкі, водгукі мяркуецца абнародаваць у адмысловым выпуску "СКАРЫНІЧ" — 2000 год.

Пажаданыя таксама звесткі пра аўтара: прозвішча, імя, узрост, род заняткаў.

Чакаем!

**А. КАЎКА.**

Масква.

## КОНКУРС




Паважаныя супрацоўнікі рэдакцыі "Голасу Радзімы"!

Спяшаюся паведаміць, што газета да мяне даходзіць. А жыву я зараз у Ніжнім Ноўгарадзе. Я пенсіянер, і ваша газета — апошняя нітка, якая звязвае мяне з Бацькаўшчынай. Калі гэта нітка абарвецца, мне стане яшчэ цяжэй жыць. Атрымліваю я вашу газету пасля Першага з'езда беларусаў свету, удзельнікам якога мне пашанцавала быць.

Мая родная вёска — Чырвоная Горка, што на Дзяржыншчыне, за 35 кіламетраў ад Мінска на захад, па шашы Мінск — Брэст. Пры савецкай уладзе я кожны год ездзіў хоць на некалькі дзён туды, а цяпер такой магчымасці няма. Улада Ельцына зрабіла мяне амаль што жабраком. Якія цяпер паездкі на радзіму!

Нядаўна я атрымаў № 51—52 "Голасу Радзімы". Там ёсць верш Зінаіды Жукоўскай з пасёлка Узда. Прачытаў яго, і так захацелася даведацца, якая цяпер Узда. Пасля вайны я быў там у дзетдоме як сын "ворага народа". Потым скончыў рамеснае вучылішча ў Мінску, і мяне накіравалі на новабудоўлю ў Башкірыю. Так я апынуўся далёка ад Мінска.

А цяпер мая Чырвоная Горка — блізкае замежжа. І смешна, і крыўдна. Старэйшая мая дачка пішацца рускай, а малодшая — беларускай. Жартам называю яе зямлячкай. Хочацца паказаць ёй нашу Беларусь, але дзе там! Не тыя часы, каб гэта ажыццявіць. Не тое ў кішэні.

Пытаеце, што мяне, чытача, цікавіць у газеце. Усё цікавіць! Гісторыя Беларусі, яе мастацтва, вершы яе паэтаў. Асабліва радуюся, калі сустракаю вершы Сяргея Грахоўскага. Неяк раз я з ім сустракаўся, паказаў яму свой пераклад яго верша. Ён мне падарыў сваю кніжку. Гэта была мая адзіная сустрэча з паэтам-беларусам.

Вельмі сумна, што тыраж "Голасу Радзімы" такі маленькі. Хочацца ведаць больш пра тое, як жывуць беларусы ўсюды, куды закінуў іх лёс: напрыклад, у Казахстане, Калмыкіі, на Украіне, на Урале. Калі ёсць магчымасць, друкуйце больш лістоў аб гэтым, калі ласка!

Буду сачыць за конкурсам "Беларусь у маім сэрцы". Хочацца і самому прыняць у ім удзел. Пасылаю вам свае вершы. Няхай хто-небудзь паглядзіць, ці вартыя яны таго, каб друкаваць.

Усяго вам добрага, родненькія! Няхай доўга жыве "Голас Радзімы"!

*Расія.*

*Станіслаў МАЗУРКЕВІЧ.*

### РОДНАЯ ВЁСКА

**Маленькая вёска Чырвоная Горка!..**
**У памяці родны куток не патух:**
**Гучыць надвячоркам суседак гаворка,**
**Ды пугай страляе маўклівы пастух.**

**Пасецца свіння каля самага тока,**
**А певень на грады, як злодзей, залез...**
**І хочацца хлопчыку бегчы далёка**
**Кудысьці на поўнач, за Лісаўскі лес.**

**А вось і змярканне, туман над балотам,**
**Я ногі памыў, гарцаваў па расе...**
**Цурчыць малако ў даёнку за плотам,**
**Папіць яго трохі мне цёця нясе.**

**Дзяўчаты спяваюць, прыйшлі з сенажаці,**
**І першая зорка над лесам дрыжыць...**
**Маленькі, не знаў я, што згінула маці,**
**Што недзе ў пяску Курапатаў ляжыць.**

*1990 г.*

### НА РАДЗІМЕ

**Сцяжынка, як нітачка, вузкая**
**Бяжыць каля лесу і ніў,**
**І мова мая беларуская**
**Гучыць, як дзяцінства матыў.**

**Над рэчкай таполя схіляецца,**
**Ды просяцца кветкі да рук,**
**І сонца у небе купаецца,**
**Ды недзе шчабеча жаўрук.**

**Мне ходзіцца травамі роснымі,**
**Хоць ногі гудуць, як слупы...**
**Ляжаць у пясочку пад соснамі**
**Маіх землякоў чарапы.**

**Завецца зямля Курапатамі,**
**Магілы у неба глядзяць...**
**Няхай жа ніколі за кратамі**
**Мае землякі не сядзяць.**

*1989 г.*

**ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ**

# КАБ ЗЕЛЯНЕЛА ДРЭВА РАМЁСТВАЎ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Перш за ўсё — удалося згуртаваць каля трохсот майстроў Беларусі, якія прадстаўляюць практычна ўсе віды традыцыйных рамёстваў: дрэваапрацоўку, ганчарства, ткацтва, вышыўку, карункапляценне, роспіс, кавальства, пляценне з прыродных матэрыялаў і інш. Аснову саюза складаюць майстры старэйшага пакалення, носьбіты даўніх традыцый, своеасаблівая "эліта", на якую раўняецца моладзь. Сярод іх — шырока вядомыя прозвішчы саломапляцельшчыц Лідзіі Главацкай, Таісы Агафоненкі, Галіны Саламянкі, Ларысы Лось, ганчароў Антона Пракаповіча, Сямёна Саўрыцкага, ткачых Марыі Сасонкі, Маланні Чарнавокай, разьбяроў Анатоля Маголіна, Міхаіла Рышкевіча і многіх іншых.

Але саюз не абмяжоўваецца толькі "гатовымі" майстрамі. Трэба думаць і пра будучыню, наладжваць пераемнасць традыцый, аказваць кваліфікаваную навукова-метадычную дапамогу моладзі, якая хінецца да традыцыйнай культуры, але яшчэ дакладна не вызначылася ў сваіх схільнасцях. Паколькі саюз аб'ядноўвае не толькі майстроў, але і вядучых навукоўцаў і даследчыкаў у галіне народнага мастацтва, кваліфікаваную параду можа атрымаць кожны майстар, у якой бы галіне творчасці ён ні працаваў. Гэта і прыцягвае да саюза маладых майстроў, для якіх добрая парада, кваліфікаваная падказка як глыток свежага паветра. Вялікі голад адчуваюць майстры і на творчыя кантакты, што таксама ў стане забяспечыць саюз. Гэта своеасаблівая школа для маладых майстроў, калі не абавязкова даваць нейкія парады ці чытаць спецыяльныя лекцыі, а дастаткова звесці з такімі ж, але больш кваліфікаванымі майстрамі. Глядзіш, звычайны ўмелец, які і ў традыцыях не надта арыентаваўся, і ў прыхільнасцях яшчэ не вызначыўся, праз год-другі неўпрыкмет вырастае ў сапраўднага майстра.

З гэтым непасрэдна звязана і яшчэ адна праблема — адраджэнне забытых традыцый. Навуковы падыход у адносінах да сучасных культурных працэсаў мяркуе не толькі пасіўны рух у рэчышчы гэтых працэсаў, але і тактоўнае кіраванне імі, кваліфікаванае стымуляванне стыхійных праяваў у гэтым напрамку. Такі падыход у дзейнасці саюза дазволіў адрадзіць, вярнуць з небыцця многія забытыя мастацкія рамёствы: апрацоўку бяросты, нізанне бісерам, роспіс па шкле, гліняную і драўляную цацку. Літаральна на вачах набірае папулярнасць выцінанка, сёння ў саюзе ўжо больш за дзесятак майстроў гэтага адроджанага віду творчасці, які ў бліжэйшай будучыні абяцае стаць не менш папулярным, чым саломапляценне.

З дзейнасцю саюза звязана аднаўленне практыкі праведзення прадстаўнічых выстаў народнай творчасці. На яго рахунку — дзесяткі самых розных выстаў: персанальных, групавых, тэматычных, агляддных, прычым не толькі ў сталіцы, але і ў самых розных кутках Беларусі і нават за яе межамі. А сапраўдзачная выстава "Калядныя ўзоры", што ладзіцца ў канцы кожнага года, ужо стала традыцыйнай, яе чакаюць пастаянныя гледачы, якія жадаюць пабачыць лепшыя ўзоры сучаснай народнай творчасці.

Вядома, што арганізацыя нават самай сціплай выставы патрабуе і плошчаў, і абсталявання, і сродкаў, чаго маладому саюз пакуль не мае. Таму такая дзейнасць аказалася магчымай толькі ў цеснай садружнасці з Міністэрствам культуры Рэспублікі Беларусь і яго падраздзяленнямі: музеямі, дамамі рамёстваў, школамі народнай творчасці і інш. Толькі такая садружнасць дала магчымасць наладзіць у 1996 годзе першую нацыянальную выставу сучаснай народнай творчасці "Вечназялёнае дрэва рамёстваў", летась — другую, "Жывыя крыніцы". Абедзве выставы, якія атрымалі шырокі рэзананс і сталі значнымі падзеямі ў культурным жыцці рэспублікі, даўно планаваліся Міністэрствам культуры. Але хто б узяўся іх ладзіць, калі б не Саюз майстроў народнай творчасці? Іншай такой структуры рэспубліканскага маштабу ў Беларусі няма. Пры фінансавай падтрымцы міністэрства саюз і ўзяў на сябе ўсе клопаты па падрыхтоўцы і арганізацыі гэтых маштабных акцый.

Такія сумесныя намаганні даюць добры плён і ў іншых мерапрыемствах на ніве традыцыйнай культуры. Напрыклад, пры арганізацыі святаў-конкурсаў па розных відах рамёстваў.

Такая ўжо склалася ў Беларусі практыка, што панацці "традыцыйная культура", "народная творчасць" зводзіліся пераважна да вуснапаэтычных, сцэнічных відаў. Народныя майстры звычайна былі нейкім дадаткам да прадстаўнічага свята ці агляду. А вось быць героямі "ўласнага" свята ім не даводзілася, хоць падобная практыка ў нашых суседзяў — літоўцаў, украінцаў — даўняя і добра адпрацаваная. Неадночы гэтая праблема ўздымалася і ў нас, але вырашылася толькі са стварэннем Беларускага Саюза майстроў народнай творчасці. Зноў жа, у цеснай садружнасці з Міністэрствам культуры. Яго падраздзяленні — абласныя навукова-метадычныя цэнтры культуры — праводзяць такія святы-конкурсы на абласным узроўні, а завяршае іх рэспубліканскае свята, якое рыхтуецца і ладзіцца саюзам.

Думаецца, назаўсёды запомняцца майстрам першае і другое абласныя святы ганчарства "Гліняны звон" у Любані і Івянцы, саломапляцення "Саламяныя дзівосы" ў Мар'інай Горцы, дрэваапрацоўкі "Дрэва жыцця" ў Капылі, лозапляцення "Траецкі фэст" у Слуцку і "Лазовы прут" у Браславе. А іх пераможцы спаборнічалі ў сваім майстэрстве на першых рэспубліканскіх святах-конкурсах "Саламяны цуд" (1997) і "Лазовыя карункі" (1998), якія прайшлі ў сталіцы. Практыка іх правядзення ўжо становіцца традыцыяй. Сёлета, у сярэдзіне лета, плануецца першае рэспубліканскае свята-конкурс разьбярства "Дрэва жыцця", у наступныя гады — выцінанкі, ткацтва, кавальства, вышыўкі і інш.

Вядома, не ўсё з задуманага вырашаецца паспяхова. Малады саюз пакуль не ў стане ахапіць усю рэспубліку, усіх майстроў, асабліва старэйшага пакалення, з аддаленых ад сталіцы вёсак. Уласна кажучы, першачарговай задачай створанага саюза якраз і была падтрымка гэтых апошніх носьбітаў старажытных традыцый, пра якіх сёння больш няма каму паклапаціцца. Але на практыцы ўсё аказалася нашмат складаней. Абмежаванні фінансавыя магчымасці саюза пакуль не дазваляюць дабрацца ў кожны куточак Беларусі — а самыя ж цікавыя і самабытныя майстры, каму вельмі патрэбна хоць якая падтрымка, жывуць не ў сталіцы. Таму саюз актыўна бярэцца за стварэнне рэгіянальных аддзяленняў, праз якія лягчэй ажыццяўляць сваю палітыку на месцах. Узначальваюць такія аддзяленні майстры, якія маюць добрыя арганізатарскія здольнасці. Яны і гуртуюць вакол сябе іншых майстроў з навакolля, падтрымліваючы цесную сувязь з праўленнем саюза, мясцовымі органамі культуры і інш. Актыўна разгарнулі сваю дзейнасць аддзяленні саюза ў Салігорску, Крупках, Івянцы, Маладзечне, Барысаве, Бабруйску і многіх іншых асяродках традыцыйных рамёстваў.

Не мае пакуль што малады саюз ні ўласнага памяшкання, ні вытворчай базы. А яна вельмі патрэбна. Напрыклад, наладзіць курсы па розных рамёствах як для "ўласных" майстроў, так і для ўсіх жадаючых. А хто не сутыкаўся з праблемай сцэнічнага касцюма? Саюз гатовы ўзяць на сябе такі клопат, але аднаго энтузіязму малавата.

Вельмі патрэбны нам і выхад за межы Беларусі, асабліва ў Заходнюю Еўропу — як з дэманстрацыяй сваіх дасягненняў, так і для продажу работ майстроў. Але тут мы вымушаны ісці ўслед за дзяржаваю. Нам ёсць што паказаць людзям. Такое, чаго больш ні ў кога няма.



*Майстар гліняных музычных інструментаў Сяргей ШЧЭРБА (Пастаўскі раён).*



*Надзея ПАНЦЯЛЕЕВА (г. Магілёў).*



*Сяргей СЯДУК з Любані на свяце "Лазовыя карункі".*



*На рэспубліканскім свяце "Лазовыя карункі".*

«Голас Радзімы»

**Рэдакцыйная калегія**

**Заснавальнікі:**

Дзяржаўны камітэт па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь;
Беларускае таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі;
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.
Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку». (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 1 604 экз. Індэкс 63854. Зак. 273.
Падпісана да друку 15.2.1999 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.

**Наш адрас:**
**220005, Мінск, пр. Ф. Скарыны, 44.**
**Тэлефоны:**
**(+375-17) 213-31-97, 213-32-80, 213-30-15, 284-76-56, 213-37-82**